Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

14 студзеня 1998 года
СЕРАДА
№ 3(83)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 750 руб.
Цана ў розніцу — 2000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### «Тэхлён» — новае прадпрыемства

**ІВАЦЭВІЧЫ.** «Тэхлён» — так называецца дачыннае вытворча-гандлёвае прадпрыемства льнозавода. Створана яно на базе цэха часальнага льноваланка.

— Наша мэта, — сказаў дырэктар новага прадпрыемства У. А. Мяцечка,— стварыць вытворчасць для вышуку льняной ніткі для дывановай пражы, шпагату і катанізаванага валакна, якое замяніць бавоўну. Калі ўстановім усё абсталяванне, то будзе карысць і заводу, і дзяржаве...

Першыя тры навейшыя машыны чэшскай вытворчасці ўжо зманціраваны, яшчэ пяць трэба атрымаць і ўстанавіць. Работы па аснашчэнню новага прадпрыемства працягваюцца.

### Іх старасць — радасць

**БАРАНАВІЧЫ.** Гарадскому клубу пажылых людзей "Неспакойныя сэрцы" — 13 гадоў. Ён аб'ядная пакуль 40 майстроў на ўсе рукі: здатных кухараў, рукадзельніц, спевакоў, танцораў, чытальнікаў. Завадатар у іх Ганна Генадзьеўна Зубарава.

— Тут настолькі цікава, людзі так захоплены справамі, што забываюць пра сваю старасць, пра сваю немач, — гаворыць старшыня клуба А. С. Аляксандроў.

Такая старасць на радасць людзям. Дзіву даешся, што ў наш нялёгкі час у людзей сталага ўзросту ёсць жаданне спяваць і танчыць.

### Медаль за мужнасць

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Напярэдадні Новага года ў Івацэвіцкім ГДК групе былых удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны ўручаны медалі Г. К. Жукава. Гэтую місію выканалі намеснік старшыні райвыканкама У. М. Макар і раённы ваенны камісар С. А. Матонін. Ветэраны ўзнагароджаны "За мужнасць і храбрасць, праяўленыя ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і мілітарысцкай Японіяй у Вялікай Айчыннай вайне", — так гаворыцца ва ўзнагародных дакументах.

Віноўнікам урачыстасці прысвяціў свой канцэрт самадзейныя артысты гарадскога Дома культуры.

● ФОТАСЮЖЭТ

## БУДЗЕ КААПЕРАТЫЎНЫ ЖЫЛЫ ДОМ



*ІВАЦЭВІЧЫ. Па вуліцы імя Чкалава закладзены фундамент 30-кватэрнага кааператыўнага жылога дома. Работы па ўзвядзенню яго распачалі будаўнікі ПМК-18. Як адзначылі яны, пры нармальным фінансаванні, увод гэтага дома ў эксплуатацыю можна чакаць праз год. Ці збудзецца прадбачанне будаўнікоў, пакажа час. На будаўнічай пляцоўцы пакуль ажыўлена.*

*НА ЗДЫМКУ: закладзены фундамент яшчэ аднаго дома.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

## «Изъять» і не чытаць...

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Цікавы дакумент прынёс у рэдакцыю «Газеты для вас» адзін наш чытач. Каб пазбегнуць непаразуменняў, друкуем яго поўнасцю:

«Директору школы

Отдел народного образования Ивацевичского райисполкома сообщает, что согласно приказа Министерства просвещения БССР от 11.06.1987 г. № 2/618 в школьной библиотеке необходимо изъять книгу «Синяя свита напево сшита». Минск. Юнацтва. 1986 г.

Письменно сообщите в РОНО об изъятии данной книги до 20 ноября.

Зав. отделом народного образования Ивацевичского райисполкома В. Н. Басалай».

Дакумент засведчаны трохвугольным штампам РАНА.

Да гэтага дакумента была далучана і дакладная бібліятэкара адной са школаў райцэнтра, у якой паведамлялася аб выкананні загада Міністэрства асветы БССР і прапановы РАНА.

Што ж гэта была за кніга і чаму яе вынішчылі з дзіцячых бібліятэкаў гэтак жа, як напрыклад, вынішчалі кнігі А. Салжаніцына «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», «Захар Каліта» і іншыя, А. Галіча «На сямі вятрах», «Вас выклікае Таймыр», В. Азарава, В. Зіначова «Жывыя, памятайце пра нас!» Гэтыя аўтары больш вядомы чытачам, і кнігі іх вынішчаліся ў 70-х гадах з-за таго, што без упрыгожвання адлюстроўвалі савецкую рэчаіснасць даваенных, ваенных і пасляваенных гадоў. Крамольнымі былі і імёны пісьменнікаў, якія «посмели свое мнение иметь», дазвалялі сабе, як, напрыклад, А. Салжаніцын, расказваць людзям праўду аб савецкіх ГУЛАГах, лагерах, у якіх пакутавалі і загінулі мільёны нявінных людзей.

Пра што ж расказвалася ў кнізе «Синяя свита напево сшита»? На жаль, ніхто нават з бібліятэкараў цяпер дакладна не можа ўспомніць ні пра яе тэкст, ні пра аўтара. Вядома толькі, што гэта была звычайная дзіцячая кніжка з нявінным, як гаворыцца, тэкстам. Сакрэт жа таго, чаму яе забаранілі, крыецца ў тым, што яе аўтар эмігрыраваў з Савецкага Саюза. Ішоў 1987 год, перабудова, але пра вораг народа яшчэ помнілі і, як бачна з прадстаўленых нам дакументаў, шукалі іх. Беззаказная машына вынішчэння культурнай спадчыны (у гэтым выпадку: міністэрства асветы — РАНА — бібліятэкі) працягвала яшчэ дзейнічаць...

● ПРОШУ СЛОВА

## ГДЕ ЗАРЫТА "ПЬЯНАЯ СОБАКА"?

Пьяный люд России взвыл от радости — в Саратове ликвидировано 28 медицинских вытрезвителей. Теперь перегруженных спиртным граждан милиционеры будут развозить по домам. Разумеется, за соответствующую «плату» и штраф за появление в общественных местах в нетрезвом состоянии. Да еще с «сигналами» по месту работы.

Конечно, мало удовольствия прикатить к родному подъезду на милицейской машине, на глазах у соседей выйти из нее под ручки стражей правопорядка, быть препровожденным в квартиру и врученным расстроенной жене, матери, теще, испуганным детям. Представляете, какой воспитательный эффект!

И все же, это лучше, чем переночевать в вытрезвителе, в один голос твердят друзья «зеленого змия». Там еще неясно, чем закончится посещение: штрафом только за ночлег и другие услуги, которые обычно не предоставляются, или переломом ребер «при падении на бордюр, будучи в сильной степени опьянения», как засвидетельствует вытрезвительский фельдшер, а может и несколькими сутками административного ареста за сопротивление, оскорбление словами и действием людей в форме. Не исключена и статья за хулиганство. Это уж как сложится ситуация.

Ликвидация медвытрезвителей, надо полагать, эксперимент. Ранее были ликвидированы лечебно-трудовые профилактории для алкоголиков, как не оправдывавшие своего назначения. Но не будем вмешиваться в дела суверенного государства. Мы просто понаблюдаем, что из этого получится. Мы знаем, что наши, белорусские ЛТП и медвытрезвители, такие же бесполезные, но, увы, очень дорогие учреждения. С одной стороны — нас, с позволения и с активной помощью государства, спаивают на каждом углу. С другой стороны — ведется борьба с пьянством. Где логика? Или кому-то нужна эта нелогичность?

Почему бы действительно борьбу с алкоголиками не взвалить на самих алкоголиков, как в Саратове? Нужны, согласен, самые жесткие меры пресечения, предупреждения поголовного спаивания граждан республики. Ведь от водки миллионы трудоспособных людей деградируют. Мы падаем в яму нищеты, безработицы, бескультурья во многом благодаря вину. Вечно полупьяный человек — это раб, нищий духом, готовый на самые подлые поступки, безответственный перед коллективом, семьей, государством, самим собой.

Кому-то нужны такие вечно с похмелья белорусы, послушные чужой воле роботы. Но только не женам, детям. Не предприятию, государству.

Вы меня все поняли — от вахтера до Президента? Так давайте тоже искать пути вывода миллионов людей из пьяного болота. Может саратовцы и не тот метод избрали, но они пробуют, нащупывают дорогу из тупика. А мы — что? Лыком шиты. Хотим Декретами-дубинками вразв все поставить на место. Глубже копайте, господа. "Пьяная собака" зарыта глубоко. Кем?

*П. ПЕТРОВ, г. Барановичи.*



## Со старым Новым годом!

День Святого Василия Вяликого совпадает с празднованием Нового года по старому стилю.

Один из отцов церкви Василий Великий, с 370 г. епископ Кесарии Каппадокийской. Проповедовал аскетизм, подвижничество, поддерживал монашество. Отстаивал независимость церкви от императора. Перед новогодьем — 13 января — называют Васильевым вечером, или щедрый вечер. Крестьяне усаживались разбирать свиную голову, олицетворяющую плодовитость и благополучие. "Накануне Нового года — жирная кутья, жируха"; "Свинку да боровка для Васильева вечерка". Стряпухи наваривали, нажаривали, напекали побольше снеди: ряженые придут.

Их дело — дурачить, веселить, пугать. Рядились стариками со страшными горбами, чертями рогатыми, медведями. Тороватые на выдумку водили "кобылку". Девицы собирались на подблюдные гадания. Гадали и на воске, и бошмачок бросали, и перед сном обсыпали себя овсом.

Колядовщики распевали шутливые песни, в которых сулили хозяину густую рожь, от которой ему "с колоса осьмина, из зерна ему коврига, из полузерна пирог". Очень распространено было к этому дню делать печенье, напоминавшее коров, овец и домашнюю птицу.

С утра такое печенье выставляли студить на подоконник, а когда приходили колядовщики, печенье раздавали им.



● *НАША ГІСТОРЫЯ*

# 80 гадоў Першаму Усебеларускаму З'езду

*80 гадоў таму 5—18 снежня 1917 г. па старому стылю (18—31 снежня па новаму стылю) у Мінску праходзіў Першы Усебеларускі З'езд-Кангрэс.*

Калі лютаўская рэвалюцыю 1917 года ў Расіі зліквідавала царскае самаўладдзе, якое больш за стагоддзе вынішчала ў нас усё беларускае і перакручвала на свой лад, у Беларусі пачаліся вялікія змены. Беларускі рух, што існаваў і дагэтуль, незвычайна ажывіўся.

Ва ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Беларусі, ва ўсіх цэнтрах Расіі нараджаліся беларускія арганізацыі, а на франтах — арганізоўваліся беларусы-вайскоўцы. (Ішла першая сусветная вайна, і Заходняя Беларусь з Вільняй з 1915 г. былі заняты немцамі, якія не перашкаджалі, а часам і спрыялі беларускаму нацыянальнаму адраджэнню на акупіраваных тэрыторыях).

25 сакавіка 1917 года ў Мінску адбыўся з'езд Беларускай Сацыялістычнай грамады, які выказаўся за аўтаномію Беларусі ў Федэратыўнай Расійскай Рэспубліцы. 25—27.03.1917 г. там праходзіў з'езд прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый, які таксама пастанавіў імкнуцца, каб Беларусь была аўтаномнай рэспублікай, і выбраў Беларускі Нацыянальны Камітэт.

За вельмі кароткі час Нацыянальны Камітэт зрабіў вялікую справу тым, што вёў самую шырокую рэгістрацыю ўсіх беларускіх арганізацый, якія толькі што засноўваліся на вялізных прасторах былой Расіі. Арганізацыі гэтыя ствараліся ўсюды, дзе толькі былі закінутыя лёсам беларусы. Самы моцны рух быў у войску. На ўсіх тагачасных расійскіх франтах існавалі беларускія арганізацыі, якія давялі справу ў 1917 г. да франтавых беларускіх з'ездаў. У Маскве ўтварылася моцная арганізацыя «Беларуская Народная Грамада», якая гуртавала ўсе беларускія арганізацыі бежанцаў, раскіданыя па розных гарадах; у Петраградзе – цэнтр «Сацыялістычнай Грамады», «Хрэсціянская дэмакратычная Злучнасць» беларускага каталіцкага духавенства, розныя рабочыя араганізацыі.

Збіраецца канферэнцыя ўсіх зарэгістраваных у Нацыянальным Камітэце арганізацый і выбіраецца Цэнтральная Рада. Улетку 1917 г. адбываюцца 2 сесіі яе, а на 3-й, апошняй, у кастрычніку прымаецца пастанова аб утварэнні нацыянальнага дзяржаўнага органа. Пасля некалькіх беларускіх франтавых з'ездаў вайскойцаў ствараецца Цэнтральная Беларуская Вайсковая Рада. Падтрымалі пастанову Цэнтральнай Рады вялікі, скліканы ў Маскве Народнаю Грамадою з'езд беларускіх бежанскіх арганізацый, а таксама шмат іншых з'ездаў: настаўніцкіх, кааператарскіх і г. д. Нарэшце, думка стварыць свой беларускі нацыянальна-дзяржаўны орган прыняла зусім рэальныя формы. Месца Цэнтральнай Рады беларускіх арганізацый займае Вялікая Беларуская Рада, якая складалася з прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый як грамадскіх, так і вайсковых. З'явіўся цэлы шэраг палітычных партый.

Нягледзячы, аднак, на такі магутны рух, на вялікую арганізацыйную работу Вялікай Беларускай Рады, сама Рада не была фактычнай уладаю Беларусі. Неўзабаве пасля 25 кастрычніка (7 лістапада па нов. ст.) – пасля бальшавіцкага перавароту ў Петраградзе – у Мінску адбыўся, так бы мовіць, мясцовы бальшавіцкі пераварот. Бальшавікамі Заходняга фронту і Мінскага гарнізона былі ўтвораны так званы "Совет Народных Комиссаров Западной области и фронта". Адносіны бальшавікоў да Вялікай Беларускай Рады не былі абсалютна варожымі. Мінскія народныя камісары сядзелі не надта моцна на сваіх крэслах, бо бальшавікі наогул былі вельмі слабымі; яны не мелі за сабою нічога, апрача разбэшчанага здэмаралізаванага фронта. У адным з загадаў бальшавіцкага каменданта аб ваенным становішчы ў горадзе ясна было адзначана, што з прапускамі Вялікай Беларускай Рады, таксама як і з бальшавіцкімі, можна з'яўляцца на вуліцы пасля забароненага часу. Усялякія з'езды былі бальшавікамі забаронены, а Вялікая Беларуская Рада, ігнаруючы гэтую забарону, склікала на 5 снежня Усебеларускі З'езд.

Нечакана ў Рады з'явіўся канкурэнт – з'арганізаваны ў лістападзе 1917 года ў Пецярбургу Беларускі абласны камітэт пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў. Камітэт выступаў за ўтварэнне аўтаномнай Беларусі як часткі Расійскай Федэратыўнай Рэспублікі. Такая пазіцыя камітэта забяспечыла лагодныя адносіны да яго з боку Савета народных камісараў у Петраградзе (бальшавікоў), які дазволіў камітэту скліканне з'езда ў Мінску і выдаў нават грашовую дапамогу ў памеры 50 тысяч рублёў. Камітэт назначыў з'езд на 15 снежня і запатрабаў ад Вялікай Беларускай Рады сходы ад 5 снежня назваць народнымі.

5 снежня на Усебеларускі З'езд сабраліся прадстаўнікі ад усіх земстваў: губернскіх, павятовых і валасных, прадстаўнікі культурна-асветных аб'яднанняў, палітычных партый, прафсаюзаў, бежанскіх, вайсковых і іншых беларускіх арганізацый. Пасля доўгіх спрэчак 7 снежня з'езд быў прызнаны паўнамоцным. На 15 снежня з'ехалася 1872 дэлегаты, з якіх 1167 з пастаноўчым, а 705 — з дарадчым голасам: сяляне, вайскоўцы, рабочыя, прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Над трыбунаю вісеў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. Была абраная Рада З'езду з 71 прадстаўніка ад усіх прысутных на з'ездзе групіровак і аб'яднанняў, якая называлася Радаю Старэйшынаў. Каб больш арганізавана рашаць усе пытанні, *якія паўсталі перад з'ездам*, пастанавілі раздзяліцца на фракцыі («левыя» і «правыя») і зямляцтвы (Магілёўскае і г. д.). Адразу ж на з'ездзе выявіліся 2 групы: незалежніцкая і русафільская. Група незалежнікаў складалася ў асноўным са старых беларускіх дзеячоў, вялікай часткі вайскоўцаў і прадстаўнікоў ад Гародзеншчыны, Віленшчыны (бежанцаў), Смаленшчыны і Міншчыны і імкнулася да таго, каб стварыць беларускую дзяржаву. Група русафільская, за якою стаялі прадстаўнікі Беларускага абласнога камітэта, Магілёўшчыны і Віцебшчыны, хацела, каб Беларусь мела цесную сувязь з Расіяй.

Пакрысе розныя бакі шукалі агульную мову. Дзейнасць Рады і «дзелавых» секцый прывяла да складання агульнай рэзалюцыі, якая цалкам была зачытаная на пленарным пасяджэнні ўначы з 17 на 18 снежня (па ст. ст. – на нов. стылю з 31 снежня на 1 студзеня). Але ў гэты час бальшавікі, якія пільна сачылі за ходам з'езда, акружылі будынак, дзе адбываўся кангрэс, войскам і сілаю разагналі з'езд, арыштаваўшы 25 чалавек з прэзідыума, хоць дэлегаты рабілі ў дзвярах барыкады і не паддаваліся.

Кангрэс паспеў прыняць аднагалосна толькі першы пункт рэзалюцыі, які абвяшчаў Беларусь рэспублікай і абвяшчаў стварэнне са свайго складу Усебеларускай Рады сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў, як органа ўлады краю; *а затым* пасля арышту прэзідыума – рэзалюцыю пратэсту. Рада з'езду не ўся была арыштавана і яе вольная частка пастанавіла сабраць з'езд у той самы дзень – 18 снежня (ст. ст. – 1 студзеня нов. ст.).

З'езд сабраўся тайна ад бальшавікоў у будынку чыгуначнага дэпо і перадаў Радзе з'езду паўнамоцтвы на далейшую барацьбу за ідэалы беларускай дзяржаўнасці. Рада з'езду выбрала з ліку сваіх сяброў выканаўчы камітэт і даручыла яму кіраўніцтва беларускай справай.

Пасля таго, як бальшавікі пад наступам немцаў пакінулі Беларусь, выканаўчы камітэт Рады Першага Беларускага з'езду, папоўнены прадстаўнікамі нацыянальных меншасцяў, 21.02.1918 г. абвясціў сябе найвышэйшай часовай (да склікання Усебеларускага Устаноўчага Сойму) уладай на Беларусі, 9.03.1918 г. абвясціў Беларусь Народнай Рэспублікай (БНР), а 25 сакавіка 1918 г. – незалежнасць БНР. Аднак ні бальшавікі, ні немцы, акупіраваўшыя Беларусь, не прызнавалі незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля ўнутранай рэвалюцыі ў Германіі немцы пакінулі Беларусь і перадалі ўладу бальшавікам, якія ў адказ на абвяшчэнне незалежнасці БНР, 1 студзеня 1919 г. абвясцілі аб'яднаную Беларуска-Літоўскую ССР, а 01.08.1920 г. – зноў БССР...

Спаткаемцам БССР і стала Рэспубліка Беларусь. Хацелася б верыць, што ўсе мы – грамадзяне Беларусі незалежна ад нацыянальнасці здолеем не зруйнаваць, а пабудаваць наш агульны дом – Беларусь і будзем роўнымі сярод роўных з іншымі дзяржавамі Еўропы і свету.

*С. РУСЕЦКІ.*

● *СКВОЗЬ ТЕРНИИ — В РЫНОК*

## Учись, предприниматель!

Филиал высшего негосударственного института управления, один из немногих прошедших строжайшую государственную аттестацию, уже несколько лет действует в Барановичах. Многие предприниматели прошли в нем заочный курс правоведения, экономики и управления предприятиями, изучили современные основы бухгалтерского учета, анализа и аудита.

Здесь желающие специалисты и бизнесмены, имеющие высшее образование, могут углубить свои теоретические и практические знания по этим же предметам.

## Богатый благодетель

Не все фермеры бедны, как многие сетуют, и не все богатые люди жадны и черствы. Фермер из деревни Ястрембель Барановичского района Николай Цветков проявил заботу о восьми одиноких инвалидах и престарелых людях Барановичей. На зиму завез им в достатке картофель и овощи, сейчас каждую неделю поставляет молоко.

Если бы все богатые люди проявляли такую заботу о бедных, жестокое равнодушие государства о своих гражданах было бы менее заметно.

## На радость алкашам

Славится колхоз "Заря" Барановичского района консервированной продукцией, чайными травяными сборами, выпускаемыми в своем цехе. Как-то здесь пробовали выпускать вино марки "чернила", да подоспело известное всему миру постановление о борьбе с пьянством. Постперестроечная Беларусь запила-загуляла с горя ли, с голодухи. Решил внести лепту в спаивание полунищих земляков и местный колхоз. Ибо примитивных "чернил" богатые не пьют. С этой целью и побывал в агрофирме представитель Республики Молдова. С руководством прорабатывался вопрос поставок винодельческого сырья для производства и разлива вин на оборудовании хозяйства.

Оно можно было бы пораскинуть мозгами да наладить выпуск какой-нибудь другой, действительно нужной продукции, но деньги не пахнут. Пока народ пьет — лови момент, решило колхозное начальство, внося этим самим свой очень "весомый" вклад в дело деградации нации хотя бы в пределах Барановичского района и города. Санкционируя освоение пьяной продукции, районное начальство, видимо, посчитало, что пойла, выпускаемого комбинатом пищевой промышленности, недостаточно.

## Перонный сбор

Нынче поборами нас не удивишь. Иные чиновники основную работу забросили и выдумывают все новые виды изъятия денег из кармана трудолюбивого белоруса. Доходит до абсурда. На вокзале станции Барановичи-Полесские давно введена плата за получение любой справки. Ту же информацию вы можете узнать по телефону бесплатно. Жалеешь выложить в справочной 2000 рублей – иди на улицу, звони с телефона-автомата. Сэкономишь 1500.

С января текущего года — новый побор. За вход на перрон встречающие и провожающие теперь должны отстоять очередь к кассе, купить талон за небольшую сумму. Пассажиры с билетами – бесплатно.

Железнодорожные чиновники объясняют эту меру необходимостью наведения порядка. Чтобы по перрону не шатались посторонние подозрительные личности. Один из них доверительно сообщил, что в перспективе будет строиться туннель для выхода к поездам. Если таким образом станция намерена собрать на него деньги – по тысяче с носа, то увидим мы свет в его конце по истечении третьего тысячелетия.

Любопытства ради я зашел на станцию. До прибытия поезда из Бреста оставалось минут пять. Перрон пуст. Ожидающие столпились за решеткой ворот и забора. Проиграли обе стороны. Железнодорожники остались с носом.

*П. НАГНИБЕДА.*

*ВАША ПІСЬМО*

## Хто абароніць спажыўца?

Перад святамі я, як і іншыя пакупнікі, збіўся з ног, шукаючы да навагодняга стала яек. Нават у райпо званіў, каб растлумачылі, чаму гэтага прадукта ў продажы няма. Адказвалі – птушкафабрыкі не даюць, куры мала яек нясуць.

А цяпер зайдзіце ў кожны івацэвіцкі магазін – яек, як гаворыцца, навалам. Купіў 10 штук, прынёс дахаты, зварыў. А яны – нясвежыя. Выходзіць, недзе ляжалі. Для чаго? Адказ, напэўна, адзіны: каб прадаць даражэй, чым да Новага года. Ці ўспомняць работнікі райпо ў гэтай сітуацыі пра спажыўцоў?

Я мяркую – не, свае фінансавыя інтарэсы гэтай гандлёвай арганізацыі даражэй. І гэта назіраецца ў іншых выпадках. Узяць той жа хлеб. Як быў ён у нашых магазінах перапечаны, гарэлы ці недапечаны, паўсыры – так і ёсць. Колькі скаргаў, размоў было на хлебную тэму, а воз, як гаворыцца, і сёння там.

Здараюцца і іншыя ўшчамленні правоў спажыўцоў. Назіраў такі малюнак. У дзвярах універсама экспедытар гандлёвай машыны рассыпаў пірожныя з латка. Іх тут жа сабралі з забруджанай падлогі і панеслі ў аддзел кандытарскіх вырабаў. Ешце, дарагія спажыўцы!

А нядаўна сын-школьнік прынёс пластмасавую баначку маянэзу, купленую ў тым жа універсаме. Адкрылі – а яна запоўнена толькі напалову. Хацелі несці назад, ды раздумаліся – як дакажаш, што баначка гэтая была няпоўная?

Я думаю, што справа абароны правоў спажыўца – справа толькі яго. Абараняйцеся, хто як можа: хлеб гарэлы не купляйце. Можна купіць якасны хлеб у магазіне Івацэвіцкага хлебапрыёмнага прадпрыемства. Маянэз (у пластмасавых баначках) можна не саромецца і ўзважыць. Гарэлку якасную (ёсць выпадкі, калі ў магазінах райпо яе прадаюць слаба закаркаваную) можна купіць у магазіне Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода (размешчаны непадалёку ад спіртзавода). Ну, а яйкі нясвежыя можна і ў раённы цэнтр эпідэміялогіі і гігіены аднесці. Няхай спецыялісты, якія сочаць за тэрмінамі рэалізацыі прадукцыі, сваё слова скажуць. Ну, і так далей дзейнічайце. Калі, вядома, сіл і цярпення хопіць!

*В. МЯГКІ,*
*жыхар г. Івацэвічы.*

● *ГОСУДАРСТВО И МЫ*

# ДЕНЕЖНАЯ РЕФОРМА В БЕЛАРУСИ: НЕОБХОДИМА, НО НЕРЕАЛЬНА

***Более месяца минуло с тех пор, как Национальный банк Беларуси своим решением от 1 декабря либерализовал систему курсообразования на рынке наличной валюты. Теперь в своих обменных пунктах банки самостоятельно определяют обменный курс при купле-продаже наличной валюты физическими лицами. Какие же первые итоги такой либерализации?***

Сразу важно подчеркнуть, что это решение Национального банка было вынужденным. Во-первых, к тому времени истощились валютные резервы Нацбанка. Во-вторых, завышенный курс белорусского рубля сдерживал рост экспорта белорусских товаров. Наконец, наличие трех различных валютных курсов рубля создавало идеальные условия для валютной спекуляции.

Как видим, причины необходимости валютной либерализации были настолько серьезны, что перевесили опасность инфляции, усиление которой неизбежно после введенной девальвации рубля.

Несмотря на либерализацию, пока Национальному банку не удалось привлечь валюту, находящуюся на руках у граждан, в обменные пункты. Например, в обменных пунктах Гомеля, принадлежащих «Белбизнесбанку», «Белвнешэкономбанку» и другим банкам, стоят небольшие очереди, — но не для продажи валюты, а для покупки ее. Такая же картина в обменных пунктах Витебска, Могилева и Минска. Люди ожидают, что кто-то принесет валюту на обмен — и тогда ее можно будет купить, так как 70 процентов купленной валюты коммерческие банки в соответствии с требованием Нацбанка должны продавать населению, а 30 процентов — самому Национальному банку.

По рассчетам аналитиков, в течение 1997 года ежемесячный объем купли-продажи населением наличной валюты снизился примерно в 8—10 раз и в ноябре не превышал 20 миллионов долларов США. Сделаем допущение, что валютная либерализация утроит объем купли-продажи валюты. Но и при этом 30-процентная доля Нацбанка в купленной валюте не дает ее большого объема.

Что же происходит? Почему до сих пор нет ожидаемого оживления? Во-первых, потому, что и сегодня действует «черный рынок» валюты, где можно получить за 1 доллар не 37—38 тысяч рублей, как в обменных пунктах, а 40—44 тысячи. Значит, коммерческие банки не дотягивают в оценке курса национальной валюты. Просто не учитывается неудовлетворительный спрос на валюту. Этому содействовало то, что с начала 1997 года наблюдались весьма высокие темпы наращивания наличной рублевой массы у населения. При возникшем дисбалансе спроса и предложения валюты курс рубля будет быстро перемещаться к значениям 41—44 тысячи рублей за доллар и выше.

Следует заметить, что относительная либерализация валютного рынка, наконец, привела к тому, что белорусская сторона была вынуждена признать российскую девальвационную оценку белорусского рубля — не 4,6 белорусских рублей за 1 российский рубль, как прежде оценивал Национальный банк Беларуси, а все 6 рублей. Во всех обменных пунктах Беларуси российские рубли покупают сегодня за 6,1 белорусского, а продают за 6,2. Ну, а после деноминации российского рубля через каких-то 10 дней белорусы прибавят к 6 рублям три нуля. Один российский рубль будет оцениваться в 6100 белорусских рублей, если не выше.

Как повлияет либерализация валютных отношений на рост экспорта белорусских товаров, сказать пока трудно. Это станет известно через 2—3 месяца. А вот что касается цен, то они не ждут и уже поползли вверх. Особенно цены на импортные товары: рыбу, овощи, фрукты. По причине дефицита растут цены на мясомолочные продукты. На колхозных рынках Гомеля за десяток яиц просят уже 50 тысяч рублей. В государственной торговле не хватает молока, бройлеров, исчезает свинина. Похоже на то, что девальвация белорусского рубля, как и в прошлогодние зимние месяцы, приведет к резкому всплеску инфляции.

Под влиянием девальвации и инфляции, спада производства и аграрного кризиса сегодня разбалансированы не только валютные, но и кредитно-денежные отношения в целом. Разбалансированы до такой степени, что назрела необходимость проведения денежной реформы. Но готово ли белорусское правительство на такой шаг? А точнее, есть ли условия для такой реформы? Нежелание руководства Беларуси проводить активные экономические реформы привело экономику страны в состояние стагнации. Кризис по-прежнему снедает промышленность, сельское хозяйство. Официально объявленный прирост производства с экономической точки зрения нельзя признать реальностью, ибо продукция тогда считается произведенной, если она реализована и потребляется. А если лежит на складах, то это на рост производства не похоже. Тем более, что миф об экономическом росте сенсационно развеян в ноябре, когда производство промышленной продукции в сравнении с октябрем обвально сократилось на целых 7,5 процента, а в Минской области — на все 10 процентов, в Гомельской — на 12,6 процента!

В белорусском правительстве несомненно понимают, что денежную реформу надо проводить безотлагательно. Но решиться на этот шаг непросто. Во-первых, потому, что необходимы большие средства для печатания новых денег. Во-вторых, не преодолен кризис в экономике страны. Резкий спад производства в ноябре не случаен. Инфляция подогревается девальвацией рубля, и новые деньги очень скоро могут превратиться в пустые бумажки, что опасно. В-третьих, государственный бюджет по-прежнему является дефицитным, и этот дефицит растет. Покрытие его напечатанными новыми или старыми деньгами будет одинаково подрывать платежеспособность белорусского рубля, и, значит, и его курс. И наконец, в-четвертых, — что, пожалуй, самое главное, — денежная реформа, будет ли она проведена в форме деноминации, как в России, или в иной форме, может быть успешной только в том случае, если одновременно начать серьезные рыночные экономические реформы. А на это нынешнее руководство Беларуси вряд ли пойдет.

*В. КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор. БелаПАН.*

# Для дома, для семьи, для души...

☺ *ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА*

*Этот снимок сделан в июле 1970 года. На нём запечатлены мои родители — работящие, умеющие преодолевать трудности, с добрыми душами шагающие по жизни.*

*Отец всю жизнь проработал водителем автомобиля, в прошлом году в ноябре ушел на заслуженный отдых. Рядом с ним — моя мама, всегда помнящая о своём главном предназначении — хранить домашний очаг, растить детей.*

*Ирина Васильевна КОТ, жительница д. Воля Ивацевичского района.*



☺ *ЭТО ИНТЕРЕСНО*

## *Кому приносит счастье подкова?*

Человек — кузнец своего счастья. Этот справедливый афоризм касается и тех, кто верит, что подкова приносит счастье.

Как же возникла у многих народов мира вера в этот оберег?

Еще в глубокой древности металлам приписывалась способность прогонять злых духов. Именно поэтому наши предки закапывали под порогом дома кусочек металла, позже — конскую подкову (конь считался символом богатства, противником злых духов). Таким образом, подкова, с одной стороны, символизировала коня, а с другой — формой напоминала месяц, который почитался как защитник людей.

Тот, кто случайно находил подкову, верил, что чудесные свойства железа, коня и месяца, воплощенные в ней, способствуют удаче.

Возможно, люди усматривали в подкове и благотворное влияние солнца, ведь дуга подковы напоминала радугу и путь небесного светила от востока к западу.

☺ *ОТКУДА ЧТО...*

## *Что это такое, каратэ?*

Каратэ — одно из японских боевых искусств, цель которого состоит в том, чтобы дать каратэ-ка возможность победить врага в реальном бою. Каратэ учит человека сражаться лишь тем оружием, которое дано ему от рождения, оружием естественным — кулаком, рукой, ногой, коленом и т. д. Отсюда и его название «кара» означает «пустой», «тэ» — «рука». Это способ боя без оружия, стоящий в одном ряду с дзюдо и айкидо.

Существует еще и «каратэ-до», суффикс «до» (путь) напоминает о том, что каратэ — это также путь к такому высшему ментальному уровню, который искали философы и мистики всех времен. Искусство боя каратэ стало средством развития человека, как физического так и умственного, путем совершенствования человеческой природы в напряженных и трудных испытаниях.

Каратэ — это еще и тренировка, основным назначением которой является возврат человеку ясности духа, его чистоты и простоты, то есть такого духа, каким человек обладает изначально. Каратэ дает человеку то состояние спокойствия, которое может дать осознание и господство над собой во всех случаях жизни. Вопреки первому впечатлению, каратэ не развивает воинственности, а учит чувству меры, смирению, уважению к жизни.

Каратэ, наконец, прекрасное средство для физического развития и сохранения здоровья. Многие из занимающихся каратэ не преследуют других целей. Это довольно сложная физическая культура, заставляющая гармонично работать все мышцы, развивающая жесткие упражнения в ежедневную работу. Таким каратэ вполне могут заниматься дети, женщины и пожилые люди; повторяемые каждое утро несколько гибких ударов руками или ногами — прекрасное средство разогрева и придания гибкости при включении в работу всех мышц и суставов. Для тех, которые когда-то увлеченно занимались, но потеряли юношескую энергию, занятия каратэ, точно также как обычная физкультура, позволяет сохранить хорошую форму.

Каратэ становится все более и более популярным, причем не только в Японии, где оно стало частью программы физического воспитания в школах и университетах, но также в Америке и Европе. Интерес, который к нему проявляется, основан на том, что каждый находит в каратэ ответы на свои вопросы.

☺ *УЛЫБНИТЕСЬ*

Старой женщине предложили впервые в жизни попробовать пива. Отпив глоток, она удивилась:

— Странно! По вкусу оно так напоминает лекарство, которое мой муж принимал последние двадцать лет.

СПЕЦЗАДАНИЕ

# «Генералы» в белых кальсонах

Еще не исключена из списков улица Суворова с единственным зданием — отделением наркологического диспансера города Барановичи. Алкаши его окрестили «суворовским училищем». Едко, но метко. Тысячи горожан и гостей спеша на вокзалы, рыночную площадь, с удивлением заглядывают через низкий штакетный забор во двор. Там разгуливают мужчины разных возрастов в белых кальсонах.

Вот они, оглядываясь, ныряют в подвал кочегарки. Погреться, объясняют медсестрам. На самом деле, заварить «чифирь» – крепчайший чай. Не «чернила», а по башке дает. Другие собираются кучками на «приколы».

— Во, друг у меня был, — начинает тридцатилетний мужик с солидным стажем пьяницы. – Допился до больницы. Прихожу навестить, конечно, с бутылкой.

— Нельзя, говорит, врач сказал: выпью сто граммов – коньки отброшу. «Ты друг или портянка», — настаиваю я.

Махнул он рукой: наливай... Это был друг – последнюю чарку со мной выпил...

— И – что?

— Похоронили сердечного.

Через забор сиганул парень, поправил что-то за поясом, подморгнул кому надо. Двое поднялись со скамейки, пошли за туалет.

— «Генерала» захотели, — провел их глазами и усмехнулся пожилой «больной».

«Генерал» – это сильнодействующий укол. Его дают в критическом состоянии, когда человек уже не в состоянии и часа прожить без вина. Опасен для сердечников. Но здесь его иногда вводят в наказание за нарушение режима.

— До проверки очухаются, — заметил кто-то.

— «Шестерки» доложат.

Проверка проводится перед сном. Дежурная медсестра «поголовно» пересчитывает наличность лечащихся. И наобум подставляет пустой стакан:

— Дыхни!

И сама нюхает нет ли следов перегара.

— Бедная медсестра, — жалеет ее юморист, — такая милая женщина, жена, мать двух детей, должна глотать воздух из легких пьяниц, сифилитиков, туберкулезников, язвенников. Фу-у!..

Лицо смотрительницы краснеет:

— После проверки зайдешь ко мне!

Парень съежился: как пить дать, в «генералы» «произведет».

Укола этого бояться, как смерти. Как-то один пьяница в течение двух недель получил двух «генералов». Вышел из «училища» и через пару месяцев умер. Все на сердце жаловался. А сдался он, между прочим, добровольно. Первый укол получил для профилактики, второй – за нарушение. Злого умысла не было, у медиков но «генералы» наверняка посадили сердце.

«Добровольцев» мало. Это те, кто решил «завязать» и прибег к помощи наркологов и... пенсионеры ради бесплатного питания в течение 21-го дня. Остальной контингент поступает через милицию. Сдают их жены, сестры, родители, соседи, руководители предприятий. Процедура проста. Заявление в милицию. Так за неделю накапливается определенное количество «жертв». Оперативники берут автомашину и проводят операцию под кодовым названием «Хапун», придуманным алкашами. Действительно, хапун. Человека забирают и отвозят в «отстойник». Там оформляются необходимые документы на освидетельствование в наркодиспансере.

Врачи фильтруют задержанных исходя из наличии свободных мест в палатах. Заполняют все койки. Остальных – кого на амбулаторное лечение, кого на «повышение» – в психлечебницу в Кривошин Ляховичского района. Отдельные личности «удостаиваются» ЛТП.

Здесь лечение идет по-научному. Десять уколов, очищающих организм от алкоголя. Таблетки для выведения спиртного из печени. Ярко-желтые. Их полно в туалете и на снегу возле него. Прячут под язык, потом выплевывают. Ослабленным положены биостимуляторы. Даже пантокрин. Получают ли они их – не могу утверждать. Трехразовое питание. Вечером – телевизор. Работа, если есть и кто хочет или может. 21 день и – на свободу с обязательной проверкой в туберкулезном и венерологическом диспансерах. За воротами «сопалатники» скидываются, заканчивают успешный курс лечения и все идет по-старому. Беспробудные пьянки.

Почти все «больные» единодушны во мнении: наркология не дает абсолютно никакой пользы. Так, отдых на две-три недели. Если сам пить не бросишь, здесь не помогут. Но отделение действует. Медперсонал получает зарплату. Ведет диспансерный учет и контроль за своими пациентами в течение пяти лет. За это время многие умудряются по несколько раз побывать в «родных стенах».

Как ни унижают здесь их достоинство, если у кого оно еще сохранилось, пьяницам все до лампочки. Верхние брюки-то с них сдирают на первые три дня, чтобы не удрал. В белых кальсонах по городу много не на гуляешь. Вот и ходят по двору на глазах изумленных прохожих взрослые мужчины в белых кальсонах, страшась получить «генерала» за любую оплошность.

Много здесь и случайных людей. Одного жена сдавала переодически, когда находила нового любовника. Другого заперли, чтоб не мешал покрутить его квартирой. Третий начальству не угодил. Человек слаб перед бутылкой. Угостят «от всего сердца» и вызывают милицию. «Органы» рады стараться. Наркологам недосуг вникать в социальные корни клиента. Пьян? Заставим сделать несколько специальных упражнений – алкаш! И рассовывают: кого — к себе, кого – в «психушку», а кто едет в ЛТП, этакую «зону» без автоматов. Личная жизнь, планы, работа – не в счет.

*П. НАГНИБЕДА.*

АЗБУКА БЯСПЕКІ

# Не трэба баяцца

*Апошнім часам у наш райаддзел звярнуліся некалькі жанчын, якія сталі ахвярамі гвалтаўніка. Малады мужчына звычайна падпільноўваў адзінокіх жанчын позні вечарам, знянацку нападаў на іх і цягнуў пад мост. Там ажыццяўляў свой гнюсны намер. Сексуальна заклапочаны мужчына цяпер ізаляваны ад грамадства. Вядзецца следства. Аднак хто дасць гарантыю, што заўтра не знойдзецца яго паслядоўнік, і новыя заявы, вельмі падобныя адна на другую, не лягуць на стол супрацоўнікаў міліцыі? Думаю, не лішнімі будуць некалькі рэкамендацый, спецыяльна прызначаных для жанчын, якія могуць сустрэцца з насільнікам.*

Асцерагайцеся хадзіць адна. Калі ваша рабочая змена заканчваецца позні вечарам, вяртайцеся да дому з сяброўкамі. Някепска было б, каб вас сустрэў муж, сын ці брат.

Калі ж вы ідзяце адна і адчулі, што нехта вас даганяе ці ідзе па пятах, перайдзіце на другі бок вуліцы або выйдзіце на праезную частку вуліцы. З-за частых аўтамабіляў, што праходзяць па ёй, незнаёмец не адважыцца чапляцца да вас. Не хавайцеся ў глухіх дварах, за карчамі і дрэвамі. Калі рашылі бегчы, рабіце гэта хутка і нечакана для праследаваціеля.

Калі ж здарылася апынуцца сам-насам з насільнікам у бязлюдным месцы, паспрабуйце пагаварыць з ім, каб выйграць час. Напрыклад, прапануйце пайсці з ім у больш падыходзячае месца, разжальце яго слязьмі ці ашаламіце грубасцю. Гаварыце што заўгодна – што вы цяжарная ці ў вас месячныя, што вы ведаеце незнаёмца, што зараз падыдзе ваш муж... Размаўляйце голасна, упэўнена, паказваючы ўсім сваім выглядам, што вы яго не баіцеся. Страх – галоўная зброя насільніка, ад перапужанай жанчыны яму лёгка дабіцца свайго.

Калі бачыце, што ўгаворванне не дзейнічае, паспрабуйце нечакана што-небудзь кінуць насільніку ў твар: жменю пяску ці снегу, звязак ключоў, запаленую цыгарэту ці ўсё змесціва вашай касметычкі. Не паддавайцеся да апошняга: ударце каблуком па галёнцы, кусайцеся, драпайце яму твар, схапіце за валасы. Ваша задача – не змагацца з насільнікам, які, зразумела, дужэйшы за вас, а выкарыстаць любыя дзеянні, якія дадуць вам шанц вырвацца і ўцячы.

Калі вас нечакана абхапілі ззаду і спрабуюць паваліць, з усёй моцы ўдарце гвалтаўніка галавой у твар ці нагой па яго галёнцы. Пакуль ён ачуняе вы зможаце адбегчы ці паклікаць людзей на дапамогу.

Не лічыце гэтыя парады вельмі простымі і прымітыўнымі. Падобныя паводзіны дапамогуць вам выкараскацца з крытычнай сітуацыі.

*С. ПІСЬМАН,*
*намеснік начальніка Івацэвіцкага раённага аддзела ўнутраных спраў.*

КОНКУРСЫ

# Праведзены два занальныя туры

Працягваецца конкурс юных знаўцаў пажарнай справы сярод вучняў 4-х класаў сярэдніх школ Івацэвіцкага раёна. Адразу два занальныя туры былі праведзены ў снежні. У першым удзельнічалі вучні Яглевіцкай, Воленскай, Хадакоўскай, Стайкаўскай, Любішчыцкай і Падстарынскай школ.

На працягу ўсёй гульні, якая праходзіла на сцэне Івацэвіцкага ГДК, напружаная барацьба ішла паміж камандамі Любішчыцкай і Яглевіцкай школ. У выніку перамогу атрымалі апошнія. Гэтыя рабяты аказаліся куды болей актыўнымі, дасведчанымі, спрытнейшымі і знаходлівейшымі ва ўсіх конкурсных заданнях, якія цалкам абапіраліся на супрацьпажарныя правілы. Але любішчыцкія «Агнявушкі» не намнога адсталі ад сваіх сапернікаў і былі другімі на фінішы. Хадакоўскі «Вугольчык» завяршыў гульню трэцім.

Напярэдадні навагодніх святаў прайшоў Быценскі рэгіянальны тур. Большасць каманд у якасці конкурсу агітбрыгад паказалі сцэнкі з удзелам Дзядулі Мароза. У гэтым туры свае веды і сваю дасведчанасць у пажарнай справе прадэманстравалі каманды «Цілі-Бом» Быценскай СШ, «Вогнетушыцель» Даманаўскай, «Полымя» Волькаўскай і «Светлячок» Дабромысленскай сярэдніх школ. Як высветлілася, на карысць пайшлі і супрацьпажарныя віктарыны, праведзеныя ў школах перад конкурсам. Стала вядома таксама, што чацвёртакласнікі няблага ведаюць многія прадметы пажарнага ўзбраення і лёгка могуць здагадацца аб іх прызначэнні толькі па адной-адзінай падказцы вядучага. Крыху горшыя веды ў дзяцей адносна ўзаемадзеяння некаторых рэчаў і матэрыялаў з вадой.

Школьнікі ў гэтым адборачным туры па-рознаму праявілі сябе: калі некаму складана давалася адно конкурснае заданне, то ён абавязкова вызначаўся станоўча ў другім. На першым месцы трывала замацавалася каманда « Цілі-Бом» (Быценская СШ). Другое месца падзялілі каманды Дабромысленскай і Волькаўскай школ.

У гэтых двух конкурсах засмучае толькі тое, што малюнкаў супрацьпажарнай тэматыкі было прапанавана на гэты раз малавата. Хоць, зрэшты, усе школы-удзельніцы папярэдне правялі свае конкурсы малюнкаў, потым лепшыя прапанавалі на рэгіянальны конкурс. Прызы за свае малюнкі атрымалі Віталь Канявега і Вольга Саванчук з Волькаўскай СШ, Валодзя Петрушкевіч з Дабромысленскай СШ, Саша Шувалаў, Сярожа Куцко і Алёна Корза з Быцені, Вікторыя Ламейка з Даманава.

Падарункі атрымалі ўсе каманды-пераможцы абодвух тураў. Камандам-удзельніцам, што аказаліся на чацвёртым месцы і ніжэй, прыйшлося суцяшацца толькі шакаладам. Падарункі юным пажарным падрыхтавалі маладыя прадпрымальнікі з райцэнтра Алег Хаванскі, Генадзь Мергес, Сяргей Турко. Вялікі ім дзякуй!

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС-6 Івацэвіцкага раёна.*

# Странная смерть

В баре «Нестерка» на бульваре Штоккерау в самом центре Барановичей в новогоднюю ночь погиб двадцатилетний парень. Врачи, засвидетельствовав множество синяков и кровоподтеков на теле, вынесли, однако, странный предварительный диагноз: сердечная недостаточность. Милиция не нашла следов насильственной смерти. Для окончательного и верного установления причин смерти части тела покойника отправлены на специальную криминалистическую экспертизу.

# Урок–окурок

Совсем немного не дотянули до нового 1998 года жители деревень Кадычицы И. П. Вронко, Нагорная – Л. К. Волчецкий Барановичского района, Н. В. Ващилко с улицы Пролетарской г. Барановичи и его сестра, сгорев в своих домах и квартирах. Следствие определило одну причину: погибшие в огне были нетрезвыми и курили лежа в постели.

Невольные самоубийцы с сигаретой в зубах, увы, не переводятся. Остается только посочувствовать тем, кто небрежно заваливается в кровать и прикусывает кончик сигареты.

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Трагедыя на пераездзе

У мінулую пятніцу сумнавядомы чыгуначны пераезд у вёсцы Даманава Івацэвіцкага раёна зноў стаў аб'ектам людской увагі і страшнага людскога гора.

Прыкладна а 21-й гадзіне аўтамабіль на вялікай хуткасці ўрэзаўся ў цягнік. Двое маладых мужчын, што былі ў легкавушцы, загінулі на месцы, трэці выскачыў на хаду з "Жыгулёў" і застаўся жывы.

*(Наш кар.).*

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 12 студзеня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя " Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 ( 245) 2-12-29.

Рукапісы і здымкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні і выказванні могуць не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязацельстваў. Пры перадрукоўванні спасылка на нашу газету абавязковая.

*Тыраж 1250.*
*Заказ 68.*